# РОЗГАЛАС

## ДЗІЦЯЧЫЯ ДАМЫ ПРАЕКТУЮЦЬ ДЗЕЦІ

**Аб гуманітарнай, дабрачыннай дапамозе Захаду Рэспубліцы Беларусь, яе народу і асабліва дзецям сказана і напісана так многа, што, здаецца, гэтая тэма ўжо сябе вычарпала. Але нездарма гавораць, што наша жыццё бясконцае ў сваёй разнастайнасці. Вось і ў гэтым выпадку нечакана адкрыліся новыя грані супрацоўніцтва. Размова ідзе аб міжнароднай грамадскай арганізацыі КАЯ («Водгук»). Заснавальнікі дабрачыннага цэнтра — нямецкі мастак Бернхард Алерс і яго жонка, беларуска па нацыянальнасці, архітэктар Ірына Заслаўская.**

Яны нядаўна пабывалі ў Пінскай школе-інтэрнаце для дзецей-сірот і пазнаёмілі калектыў са сваім праектам. Ён настолькі арыгінальны, што варты таго, каб увайсці ў гісторыю. Сутнасць праекта, які скарочана называецца «Беларускі дом», заключаецца ў наступным. На тэрыторыі вёскі Старыца калгаса «Новы свет» Капыльскага раёна ствараецца пасёлак, дзе будзе пабудавана некалькі сямейных дамоў для дзяцей-сірот з чарнобыльскай зоны. Дагаворанасць аб першым такім аб'екце замацавана спецыяльным пагадненнем, ужо падпісаным старшынёй калгаса М. Рубелем і кіраўнікамі цэнтра КАЯ.

Своеасаблівасць задумкі ў тым, што праект будучага дома павінны стварыць сваёй фантазіяй самі дзеці. Для гэтага творчая група цэнтра КАЯ мае намер правесці шматлікія конкурсы ў розных краінах, у тым ліку і ў Беларусі. Будуць падключаны студыі дзіцячай архітэктуры, мастацкія студыі, маладзёжныя арганізацыі. Дарэчы, тэма конкурснага задання так і называецца: «Дом маёй мары». Ужо сабрана некалькі тысяч ідэй такіх домікаў. Свае варыянты прапанавалі дзеці розных краін, у першую чаргу Германіі. Што для іх характэрна: кожнае дзіця будзе мець асобны пакой, абсталяваны ў адпаведнасці з яго густамі і інтарэсамі. Плануюцца іграўня і фізкультурныя памяшканні, пакой для заняткаў музыкай і мастацкай творчасцю, агульная сталовая. Вядома ж, такой сям'і прадаставяць некалькі гектараў зямлі для сада і агарода, у комплекс увойдуць жывёлагадоўчыя і іншыя гаспадарчыя пабудовы.

Канчатковы выбар праекта зробяць спецыялісты нашай рэспублікі і Германіі. Будаваць жа дом будзе калгас за свой кошт з дапамогай спонсараў. Магчыма, у будаўніцтве прымуць удзел самі дзеці. Членамі калгаса стануць не толькі гаспадары «Беларускага дома» але і ўзятыя на выхаванне дзеці-сіроты.

А цяпер галоўная навіна. Дабрачынны цэнтр КАЯ выказаў пажаданне, каб першымі жыхарамі такой своеасаблівай фермерскай сядзібы стала група з 6—8 дзяцей з Пінскай школы-інтэрната. Маюцца на ўвазе школьнікі малодшых класаў. КАЯ абяцае практыку для гэтых сем'яў непасрэдна ў Германіі для вывучэння багатага вопыту вядзення асабістай сялянскай гаспадаркі і вырошчвання экалагічна чыстых прадуктаў харчавання.

Бернхард Алерс і дырэктар школы-інтэрната З. Чайкоўская замацавалі гэтую ідэю спецыяльным партнёрскім пагадненнем аб кааперацыі. З боку нямецкіх сяброў дадзена абяцанне перыядычна арганізоўваць адпачынак дзяцей-сірот Пінска ў Германіі.

— Таму цяпер,— расказвае Зінаіда Чайкоўская,— справа за дарослымі. Думаю, жадаючыя знойдуцца. Асабіста мне б хацелася, каб у тых, хто прапануе свае кандыдатуры на ролю бацькоў-выхавальнікаў былі б свае дзеці такога ж, скажам, узросту. Між іншым, на днях атрымана пацвярджэнне з Германіі аб тым, што ўрад зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія (радзімы Бернхарда Алерса) падтрымала ініцыятыву КАЯ і абяцала дапамогу ў рэалізацыі праекта першага «Беларускага дома».

**С. ШАПІРА.**

## СУБОТНІК ДЛЯ «РАЁНКІ»

*Парадокс, ды і толькі! У наш час шырокай галоснасці сама галоснасць апынулася ў найгоршым становішчы і панесла найбольшыя страты. Манапалісты-вытворцы газетнай паперы і друкарскай фарбы, паліграфісты і сувязісты да таго ўзвінцілі цэны на сваю прадукцыю і паслугі, што нават так званыя цэнтральныя і рэспубліканскія перыядычныя выданні могуць спыніць сваё існаванне. А пра раённыя ўжо і гаварыць няма чаго — іх лёс яшчэ больш бядотны і катастрафічны.*

*Рубам стала пытанне «быць ці не быць» і перад глускай газетай «Радзіма», якая выходзіць з лістапада 1930 года.*

*Што ж рабіць? Пайсці на пераафармленне падпіскі, як гэта зрабілі ўжо некаторыя рэдакцыі, глускія журналісты не захацелі, але і выйсця з гэтага становішча не бачылі.*

*Значыць, няма ніякага выйсця? Не, яно ёсць! На выручку прыйшоў старшыня мясцовага калгаса «Праўда» Р. Зайцаў. Што, стаў надзейным спонсарам? Ды не. Звярнуўся праз тую ж раёнку з адкрытым пісьмом да кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў, арганізацый, устаноў і школ раёна, да пенсіянераў і ўсіх жыхароў Глушчыны з канкрэтнай прапановай — арганізаваць і правесці 18 красавіка суботнік у падтрымку газеты.*

*Сваю ідэю Рыгор Лукіч абгрунтаваў такім чынам. Заробленыя на традыцыйных камуністычных «чырвоных суботніках» грошы звычайна пералічваліся ў фонд пяцігодак. Аднак рэальнай аддачы ад іх ніхто ніколі не бачыў. А вось калі сродкі будуць пералічаны на рахунак райгазеты, то гэта будзе рэальным укладам кожнага ў яе выратаванне.*

*Адказны сакратар рэдакцыі «Радзіма» Сяргей Анташкевіч даслаў свой допіс у «Звязду» з адным намерам: магчыма, гэтую ідэю падхопяць і ў іншых раёнах. А сапраўды, чаму б і не пераняць?*

**Іван БРАЛКА.**

*Аляксандр РУЦКОЙ:*

## «Бясплатны сыр бывае толькі ў пастцы»

**По Маскве ўсё шырэй распаўзаюцца чуткі аб магчымай адстаўцы Барыса Ельцына. Прычынай, з аднаго боку, служаць вольныя ці міжвольныя намёкі ў прамовах і выступленнях самога прэзідэнта, з другога — незадаволенасць расіян эканамічнымі рэформамі, віну за цяжкія вынікі якіх многія ўскладаюць не на кампанію Ягора Гайдара, а на Ельцына, як першую асобу. Увага замежных палітыкаў і грамадскасці ўсё часцей звяртаецца да фігуры віцэ-прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Аляксандра Руцкога. Ды і сам віцэ-прэзідэнт з часоў жнівеньскага путчу не жадае заставацца ў баку.**

**— Аляксандр Уладзіміравіч, ходзяць чуткі, што вы ўзначалілі антыельцынскую апазіцыю. Як жа так, яшчэ ж зусім нядаўна Руцкой даваў слова афіцэра, што будзе з Ельцыным да канца...**

— Слова свайго я не парушыў. Ніякай апазіцыі ніколі не ўзначалю. А выступаў і буду выступаць супраць бяздарнасці рэформ, якія праводзіць расійскі ўрад у эканоміцы.

**— Цяпер сітуацыю спрашчаюць: падтрымліваеш рэформы — значыць, за рынак, супраць — за план...**

— І дарэмна. Я прапаную пачаць рэформы з увядзення надзвычайнага эканамічнага становішча, усебаковага плана пераўтварэнняў. Але гэта зусім не азначае — з цэнтралізаванага планавання ці палкі. Проста неабходна спачатку ўсё правільна ацаніць. Каб не атрымалася, як з абяцанымі Гарбачовым да 2000 года асобнымі кватэрамі для кожнай сям'і.

**— Па-вашаму, урад пачаў рэформы, не маючы дакладнага плана?**

— А хіба гэтага не бачна? Зроблена спроба загнаць расійскую рэформу ў рамкі адной, да таго ж тэарэтычна слаба абгрунтаванай, мадэлі, без уліку рэальнага становішча спраў у краіне, глыбіні эканамічнага крызісу. Праз ласку нашых бяздарных эканамістаў цяпер трэба пераходзіць да рынку не ад цэнтралізаванай планавай сістэмы, пры якой мы дрэнна ці добра, але жылі, а ад стану анархічнага развалу ўсёй эканомікі.

**— Хто ж вінаваты персанальна?**

— Я не люблю называць прозвішчаў.

**— Афіцэр-афганец баіцца?**

— Ды не. Проста чалавеку, які сочыць за ўсім, што адбываецца, і так зразумела, хто вінаваты. А баяцца мне няма чаго. Перад Кангрэсам грамадзянскіх і патрыятычных сіл Расіі я два дні выслухоўваў пагрозы па тэлефоне ў шпіталі, дзе праходзіў курс лячэння: «Ты ж глядзі, віцэ-прэзідэнт, не лезь на кангрэс. І наогул не высоўвайся. А то мы з табой разбярэмся». Я заўсёды адказваў і адказваю: «Ну, прыходзьце, я яшчэ, дзякуй Богу, здольны разабрацца».

Можа, я камусьці і не падабаюся, але мне напляваць. Можа, грубаваты, але гавару, што думаю. А маўчаць не магу, таму что ўвесь гэты эканамічны хаос і палітычны падман для людзей можа закончыцца вельмі сумна.

Гаворыце, не называю прозвішчаў? Ну вось, напрыклад, Ягор Гайдар. Гэты былы крытык рыначнай эканомікі нядаўна заявіў: любыя ахвяры, на якія мы пойдзем дзеля скарачэння бюджэтнага дэфіцыту, будуць апраўданы. Відаць, гайдараўскі ўрад гатовы пайсці на смерць пенсіянераў, якія стаяць у бясконцых чэргах за дарагім малаком, на тое, каб галодныя школьнікі і далей страчвалі на ўроках прытомнасць, на фізічнае падаўленне ўсіх, хто не прымае такіх рэформ. Што гэта, як не паўтарэнне пройдзенага: рэвалюцыя любой цаной!

**— Дарэчы, аб Кангрэсе грамадзянскіх і патрыятычных сіл. Для многіх вашых апанентаў гэта добры козыр: віцэ-прэзідэнт Руцкой і лідэр «Памяці» Васільеў — у адной зале.**

— Пра «Памяць», нягледзячы на выкрыкі пратэсту васільеўцаў, я сказаў усё, што думаю, у той жа зале. Гэта другая крайнасць — асляпленне прымітыўным патрыятызмам. У любых дэмакратычных працэсах гэтыя людзі бачаць ледзь не змову супраць дзяржавы. Нацыянал-шавінізм і экстрэмізм у чорным колеры павінны адысці ў мінулае, ім не месца ў радах патрыятычных сіл.

А папрокі ў свой адрас я прадбачыў. Мяне абвінавачваюць у аднабаковасці падыходу да праблем, адсутнасці пачуцця інтэрнацыяналізму і г. д. і да т. п. Да якой пары любоў да Айчыны і роднага папялішча будзе атаясамлівацца з нацыяналізмам, а рускі будзе саромецца гаварыць, што ён рускі, асцерагаючыся абвінавачанняў у шавінізме?

Абыякавасць да сваёй Айчыны, якая авалодала нашымі эканамістамі-эксперыментатарамі, — вось злачынства. У нас цяпер вядзецца палітыка эканамічнага генацыду ў адносінах да ўласнага народа. Скачок у рынак без уліку асаблівасцей эканамічнага і гістарычнага развіцця краіны, толькі з дапамогай шаста лібералізацыі цэн, — гэта скачок у бездань, глыбіня якой не апісана яшчэ ні ў адным падручніку.

Біржы, біржы... Рэкламуюць толькі іх. Вырабляць ужо няма каму. Народ бяднее. А сацыёлагі сцвярджаюць: 45 працэнтаў насельніцтва падтрымліваюць дзеянні расійскага ўрада па арганізацыі клізмы для расійскага народа. Дзе гэтае ідыёцкае апытанне праводзілася, хацеў бы я ведаць. Не інакш як на таварна-сыравіннай біржы ці ў падвалах завадатараў ценявой эканомікі.

**— Многія эканамісты сцвярджаюць, што на пачатковым этапе выхад наперад пасрэдніцкага і ценявога капіталу заканамерны, што гэта часовая з'ява.**

— Ды не ж. Мы такім чынам пабудуем мафіёзную дзяржаву. Паводле афіцыяльных даных, толькі за 6 месяцаў 1991 года было выяўлена 150 тысяч эканамічных злачынстваў (15 працэнтаў ад агульнай колькасці). Страты дзяржавы ад спекуляцыі складаюць 11 мільярдаў рублёў. Паводле даных экспертаў, да 65 працэнтаў гуманітарнай дапамогі, якая паступіла ў 1991 годзе ў нашу краіну з-за мяжы, было раскрадзена і рэалізавана праз камерцыйныя магазіны і палаткі па цэнах, якія перавышаюць дзяржаўныя ў 10—15 разоў. І адбываецца гэта не без «дапамогі», якая заключаецца ў бяздзейнасці і бескантрольнасці апарату віцэ-прэм'ера Шохіна.

**— А ці так ужо неабходна нам гэтая замежная дапамога?**

— Вядома, не. Наш урад гатовы атрымліваць «міласціну» бясконца доўга, не жадаючы прызнацца ні сабе, ні людзям у тым, што за ўсё гэта рана ці позна прыйдзецца расплачвацца. Другому ўраду? Магчыма. Але ж і тым, хто прыйдзе нам на змену. А гэтага ўжо, думаю, ніхто з нас не жадае.

За дапамогу ў 30 мільярдаў долараў у год (за пяць гадоў — 150 мільярдаў долараў) разлічыцца будзе нялёгка. Разам з ранейшай 70-мільярднай запазычанасцю сумарны доўг да 1995 года разам з працэнтамі складзе больш 200 мільярдаў долараў, што эквівалентна кошту амаль двух мільярдаў тон нафты, калі мы будзем расплачвацца ёю па цяперашняй сусветнай цане. Толькі выплата працэнтаў за гэтыя крэдыты патрабуе 24 мільярды долараў штогод (240 мільёнаў тон нафты). Усё глыбей увязаючы ў даўгах, мы ператвараемся ў сыравінны прыдатак.

Некаторыя сябры з-за «бугра», вядома, дапамагаюць бясплатна. Але не трэба радавацца: бясплатны сыр бывае толькі ў пастцы. Паўтараю: трэба тэрмінова ўводзіць надзвычайнае становішча.

**— А можа, не варта шашкай махаць?**

— Ды колькі ж можна, прабачце, соплі жаваць. Мы дайшлі да апошняй кропкі. Далей — катастрофа, сацыяльны выбух, які прывядзе да ўлады тых, хто захапіў яе ў 17-м годзе. Яшчэ крыху — і крызіс у эканоміцы ўжо немагчыма будзе вырашыць толькі эканамічнымі мерамі.

**Аляксандр КУТУЗАЎ, спецыяльна для «Звязды».**

## БАСТАВАЛІ ДАЯРКІ

**ВЕТКАЎСКІ РАЁН. Забастоўкі ў буйных гарадах з'явіліся прыкладам для пераймання і на сяле. Так, тры дні адмаўляліся працаваць даяркі буйнейшага ў раёне калгаса імя Лебедзева. Іх не задавальняла нізкая заработная плата, за якую зараз мала што можна купіць. І вось вынік. Адміністрацыя гаспадаркі «капітулявала». Даяркі зараз будуць атрымліваць у шэсць разоў больш.**

## НІШТО НА ЗЯМЛІ НЕ ПРАХОДЗІЦЬ БЯССЛЕДНА...

Супрацоўнікі Упраўлення па барацьбе са злачыннасцю ў сферы эканомікі МУС РБ разам з калегамі з Кастрычніцкага РАУС сталіцы затрымалі шафёра аднаго з арэндных прадпрыемстваў горада. Яшчэ летам 1990 года «прадпрымальнік» выкраў з тэрыторыі Мінскага мясакамбіната мясапрадукты на суму амаль у 10 тысяч рублёў і «загнаў» іх каапгандлю аднаго з гарадоў Украіны. Узбуджана крымінальная справа.

Дарэчы цяпер супрацоўнікі сталічнай міліцыі даволі паспяхова раскрываюць злачынствы, учыненыя ў мінулыя гады. Толькі за апошнія суткі раскрыта 11 такіх злачынстваў. Гэта крадзяжы дзяржаўнай і асабістай маёмасці, угоны аўтамашын, кватэрныя крадзяжы, грабяжы.

З вялікім жалем даводзіцца канстатаваць, што ў большасці гэтых выпадкаў, «аўтары» злачынстваў — падлеткі.

## ЗАБЫВАЦЬ ЯШЧЭ РАНА...

**У гэтых людзей, па вялікаму рахунку, ужо засталася толькі адна жыццёваважная рэч — іх Гонар. А таксама Памяць аб іх загінуўшых дзецях.**

**Яны выйшлі на плошчу Незалежнасці перад Домам урада, бацькі загінуўшых у Афгане і «афганцы», для таго, каб пра іх успомнілі. Каб урад падумаў аб нейкай кампенсацыі кожнаму, у каго Афганістан застаўся несціхаючым болем. Увогуле, каб сказаць, што пра тую вайну забываць яшчэ рана.**

**Аляксандр КОКТЫШ.**

## «РАДАСЦЬ» ДЛЯ ТАЙВАНЯ

БРЭСТ **(Ю. Фёдарава).** У самую далёкую гастрольную паездку за ўвесь час свайго існавання накіраваўся вядомы танцавальны калектыў рэспублікі — ансамбль «Радасць». Артысты запрошаны выступіць перад жыхарамі Тайваня. Ад кіраўніка ансамбля народнага артыста рэспублікі Анатоля Вараб'ёва, які пазваніў нам па тэлефоне, атрымана прыемная вестка. Гледачы Тайваня не шкадуюць артыстам апладысментаў.

Пасля вяртання з Азіі ў «Радасці» вялікае гастрольнае лета па многіх краінах Еўропы.

## ПАД ЮРЫСДЫКЦЫЮ РАСІІ?

З нядаўняга часу на ўсё, што адбываецца на адным з самых людных месц Кобрына — гарадскім аўтавакзале, стаў пазіраць двухгаловы расійскі арол... Паявіўся ён на кіёску гуказапісу, які належыць камбінату бытавога абслугоўвання. Аднак звестак аб тым, што ўстанова перайшла пад юрысдыкцыю Расіі, пакуль не паступала.

Што ж, камусьці на Беларусі дарагі абраз святога Міколы, а камусьці — сімвалы замежнай дзяржавы. Аднак далёка не кожнаму прыйдзе ў галаву выстаўляць іх у грамадскім месцы на ўсеагульны агляд.

**Ігар СІДАРУК, БелаПАН.**

## ПЫТАННЕ ПА КАРАБАХУ БУДЗЕ АБМЕРКАВАНА Ў МІНСКУ

24 сакавіка ў рамках праходзячай у Хельсінкі нарады па падрыхтоўцы да сустрэчы дзяржаў-удзельніц агульнаеўрапейскага працэсу па ініцыятыве міністра замежных спраў Фінляндыі П. Вяюрунена адбыліся неафіцыяльныя кансультацыі міністраў замежных спраў дзяржаў—удзельніц НБСЕ. У ходзе іх асноўная ўвага была ўдзелена перспектывам развіцця і ўдасканалення працэсу НБСЕ, які ўсё больш набывае еўраазіяцкі характар, падрыхтоўцы да правядзення ў ліпені гэтага года Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву на вышэйшым узроўні («Хельсінкі-2»), а таксама становішчу ў Нагорным Карабаху і шляхам урэгулявання сітуацыі ў гэтым раёне. Па прапанове фінскага боку, думкі па гэтых пытаннях былі выкладзены П. К. Краўчанкам, міністрам замежных спраў Беларусі, як прадстаўніком дзяржавы, якая выконвае каардынуючыя функцыі ў межах СНД, і Д. Пінейру, міністрам замежных спраў Партугаліі.

На аснове думак, выказаных у ходзе неафіцыяльных кансультацый, удзельнікі пленарнага пасяджэння аднадушна падтрымалі прапанову **правесці ў Мінску міжнародную канфедэрацыю па Нагорнаму Карабаху з удзелам Азербайджана, Арменіі, Беларусі, Германіі, Італіі, Расійскай Федэрацыі, ЗША, Турцыі, Францыі, Чэха-Славакіі, а таксама прадстаўнікоў Нагорнага Карабаха.**

25 сакавіка міністр замежных спраў Беларусі П. К. Краўчанка і міністр замежных спраў Турцыі Хікмет Чэцін падпісалі Пратакол аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж дзвюма краінамі. У той жа дзень у пасольстве Нідэрландаў П. К. Краўчанка і міністр замежных спраў Х. Ван Дэн Брук абмяняліся нотамі аб афіцыяльным афармленні дыпламатычных адносін паміж дзвюма краінамі. П. К. Краўчанка сустрэўся з міністрам замежных спраў Аўстрыі А. Мокам, міністрам замежных спраў Арменіі Р. Аганесянам, міністрам замежных спраў Латвіі Я. Юркансам, сакратаром Ватыкана па зносінах з дзяржавамі Ж.-Л. Торанам.

## БІЗНЕС-ТЭЛЕТАЙП

У бліжэйшы час чакаецца змяненне знешняга выгляду грашовых купюр у Расіі. Супрацоўнікі Інкамбанка паведамілі, што падрыхтаваны матрыцы для друкавання новых купюр вартасцю 1 тысяча і 1,5 тысячы рублёў з вобразам Пятра I і з надпісам «Цэнтральны банк Расіі»;

Манеты вартасцю 1, 2, 3, 5, 10, 20, 50 капеек будуць чаканіцца з відарысам герба Расійскай Федэрацыі.

## КОНІ МАЕ, КОНІ...

ПІНСКІ РАЁН **(С. Шапіра).** Калі не паўцарства, то мільён рублёў дакладна выклажыў за коней калгас «Парахонскі». Ці час траціць такія грошы на жарабцоў? — задавалі многія пытанне. «Час!» —лічыць старшыня калгаса Павел Пракопчык. Конегадоўля становіцца ў гаспадарцы моцнай самастойнай галіной. Ужо праектуецца конезавод на 100 галоў. Неўзабаве тут з'явіцца іпадром са сваёй конна-спартыўнай школай.

## ХУТКА СЯЎБА. ТРЫВОЖНА...

ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ. Сёлета як ніколі складваецца цяжкае становішча з забеспячэннем тэхнікі палівам. Калі дызельнага, мяркуючы па ўсім, будзе хапаць, то чакаюцца недапастаўкі бензіну і змазачных маслаў.

Як выходзіць з такога становішча? Кіраўнікі аграпрамысловага комплексу шукаюць сувязі з брокерскімі канторамі, якія хай сабе і па дарагіх цэнах, але дапамогуць у гэтай справе, і адначасова заклікаюць механізатараў эканоміць кожны літр паліва і змазачных матэрыялаў.

## РАДЫ ДОНАРАЎ РАДЗЕЮЦЬ

*ТАЛАЧЫН. (Т. Махтадуй). На паліцах у раённай аптэцы няма самых элементарных медыкаментаў, не гаворачы ўжо пра прэпараты, пры вытворчасці. якіх выкарыстоўваецца донарская кроў. Ды і адкуль ім узяцца, калі з кожным годам радзеюць рады донараў. Напрыклад, летась у Талачынскім раёне здалі кроў толькі 1.100 чалавек — амаль на 400 менш, чым у папярэднім годзе.*

*А сёлета будзе яшчэ горш. Адмаўляюцца людзі ісці на донарскія пункты.*

*Прычыны самыя розныя. Першая тоіць у сабе страх перад вірусам СНІДу. А затым ідуць шматлікія рагаткі, якія ставяць на шляху донараў адміністрацыйныя каманды працоўных калектываў. Дні, затрачаныя на здачу крыві, часам адносяць да прагулаў без уважлівых прычын. Яны не ўлічваюцца пры водпуску і нават не аплачваюцца. Дык якая ж тут можа быць размова пра донарства?*

## Земляны склеп

Лепш за ўсё пачынаць будаваць у чэрвені-ліпені на сухім узвышаным месцы з цвёрдым грунтам. Грунтавыя воды (па ўзроўню вясны) не павінны даходзіць да падлогі па меншай меры на 1 м.

Катлаван глыбінёй 1,9 м (можна менш) капаецца ўручную. Шырыня дна 2,2 м, верху—2,8 м. Сценкі робяцца з невялікім нахілам, абшываюць іх любым падручным матэрыялам: гарбылём, дошкамі, шчытамі з лазы. Калі абшыўка будзе разборная, лепш прасушваць склеп летам.

Земляны склеп: 1 — вентыляцыйная труба; 2 — катлаван; 3 — месца для бульбы; 4 — паліцы; 5—падлога.

Падлога—глінабітная з дабаўленнем дробнага цэглавага друзу (таўшчыня слоя 10 см). Слой друзу (5 см) заліваецца гарачым бітумам, што перашкаджае капілярнаму пад'ёму вільгаці і з'яўленню грызуноў.

Столь (таўшчынёй 30—40 см) робіцца з ашкураных жэрдак, якія потым абмазваюцца сумессю гліны з саламянай сечкай і засыпаюцца зямлёй. Двухсхільны дах, які даходзіць да зямлі, павінен перакрываць катлаван не менш чым на 0,5 м з усіх бакоў. Гэта—ад дажджу.

Для даху выкарыстоўваецца абчасаны гарбыль, які кладуць унакладку, паралельна вільгаку, падкладваючы палоскі толі ці рубероіду. Вільгак робяць з тоўстых абразных дошак.

Вышыня даху па вільгаку 1,5 м. Пасярэдзіне склепа патрэбны вузкі праход. З аднаго боку будзе сховішча для бульбы вышынёй каля 1 м з крацістай падлогай, з другога—паліцы.

Вентыляцыя праходзіць праз трубу з дошак, якая дзеліцца на два каналы. Па адным паветра паступае ў склеп, а па другім выходзіць з яго. На канцы трубы (у склепе) робіцца засаўка, якой рэгулюецца паветраабмен, рэжым тэмпературы і вільготнасці.

Можна зрабіць дзве трубы, якія размяшчаюцца на розных узроўнях і пажадана ў розных месцах склепа. Выхадная адтуліна выцяжной трубы павінна быць пад самай столлю, а прытточнай—унізе, не даходзячы да падлогі на 50—60 см.

Вентыляцыйная труба на два каналы: А — агульны выгляд; Б і Г—разрэзы; В — выгляд зверху; 1 — сценкі трубы; 2 — засаўка (клапан).

Надземны склеп: 1 — уцяпляльнік; 2 — пабелка; 3 — адмостка; 4 — абмазка гарачым бітумам; 5 — гліняны слой; 6 —бутабетон; 7 — вентыляцыйная труба.





## Што, як і чым склейваць

### (З АМАЛЬ ЗАБЫТЫХ РЭЦЭПТАЎ)

**Зараз многім з нас даводзіцца рамантаваць розныя старыя рэчы. Для гэтага патрэбен добры клей, а тым, хто майструе розныя вырабы, ён проста неабходны. Але дзе яго ўзяць?**

**У гэтай падборцы вы знойдзеце рэцэпты, якімі карысталіся яшчэ нашы дзяды.**

**КЛЕЕВАЯ ПАСТА.** Для склейвання дрэва з металам, шклом, каменем і г. д. у гарачы сталярны клей дабаўляюць дробна прасеяны попел, каб атрымалася густая паста.

**ВОДАТРЫВАЛЫ КЛЕЙ.** У гарачы сталярны клей дабаўляюць натуральную пакосту ці льняное масла (1 частка пакосты ці масла на 4 часткі клею).

**ДЭКСТРЫНАВЫ КЛЕЙ.** Сухі бульбяны крухмал падаграваюць на жалезным лісце да 400 градусаў. Атрыманыя карычневыя напаўпразрыстыя крышталікі размолваюць у парашок.

**Падрыхтоўка клею.** 10 грамаў гэтага парашку старанна разводзяць у 25—30 кубічных сантыметрах халоднай вады. Можна яшчэ дабавіць 2 грамы цукру. Клей можна выкарыстаць для склейвання паперы.

**ГУМІАРАБІК.** Гуміарабік робяць са смалы, якую выдзяляюць некаторыя трапічныя расліны. Аднак зусім нядрэнны клей можна атрымаць, выкарыстаўшы смалу вішнёвых, слівовых ці абрыкосавых дрэў, а таксама смалу белай акацыі.

Кавалачкі гэтай смалы ачышчаюць ад кары і бруду, высушваюць і размолваюць у парашок, які захоўваюць у закрытым флаконе. Патрэбную колькасць парашку раствараюць у цёплай вадзе, і клей гатовы да выкарыстання. Гуміарабік — найлепшы клей для паперы.

**КАЗЕІНАВЫ КЛЕЙ.** Казеінавы клей выкарыстоўваюць для склейвання розных матэрыялаў, у тым ліку фаянсу, пластмасы і г. д.

Казеінавы клей адрозніваецца большай устойлівасцю да вільгаці, чым сталярны.

Казеін звычайна прадаецца ў выглядзе парашку, але яго лёгка прыгатаваць і самому.

**Атрыманне чыстага казеіну.** Абястлушчанае малако ставяць у цёплае месца, каб яно закісла. Затым яго фільтруюць праз прамакальную паперу.



Казеін (бялковае рэчыва малака) застаецца на паперы. Яго мыюць у мяккай (дажджавой) вадзе, потым, завязаўшы ў анучу, кіпяцяць у вадзе, каб вывесці рэшткі тлушчу. Пасля гэтага казеін раскладваюць на прамакальнай паперы і сушаць пры хатняй тэмпературы.

**Падрыхтоўка клею.** Дзесяць частак казеіну і адну частку буры размешваюць у дзвюх частках вады, пакуль не атрымаецца цеста, затым дабаўляюць яшчэ дзве часткі вады. Атрыманы клей прыгодны для выкарыстання на працягу дзвюх-трох гадзін, пасля чаго ён цвярдзее.

Казеінавы клей можна прыгатаваць, дабаўляючы да тварагу па кроплі нашатырнага спірту, пакуль не атрымаецца студзяністая празрыстая маса. Гэтай масай змазваюць дэталі.

У гатовы казеінавы клей дабаўляюць некалькі кропель фармаліну для атрымання водатрывалага клею.

**ЦЭЛУЛОІДНЫ КЛЕЙ.** Гэтым клеем можна добра склейваць самыя разнастайныя матэрыялы — дрэва, скуру, тканіну, пластмасу і г. д. Клей хутка сохне і зусім не баіцца вільгаці. Для яго прыгатавання выкарыстоўваюць непатрэбную кінаплёнку. Яе адмываюць у гарачай вадзе ад эмульсіі і рэжуць на дробныя кавалачкі. Затым іх змяшчаюць у бутэльку і заліваюць ацэтонам ці грушавай эсенцыяй. На адну частку цэлулоіду бяруць 2—3 часткі ацэтону. Калі плёнка поўнасцю растане, клей гатовы для выкарыстання.

Гэтым жа спосабам можна прыгатаваць клей для склейвання лінолеуму. У шклянку кладуць кавалачкі старога лінолеуму і заліваюць ацэтонам. Калі ён растане да гушчыні сметанковай масы, яго можна выкарыстоўваць.

**КЛЕЙ ДЛЯ СКЛЕЙВАННЯ ВЫРАБАЎ СА ШКЛА, ФАЯНСУ, ФАРФОРУ.** Каб атрымаць масу для склейвання шкла і фарфору, трэба распусціць на павольным агні 50 грамаў светлага шэлаку з 25 грамамі шкіпінару. Сумесь крыху астуджваюць і раздзяляюць на маленькія пліткі. Пры карыстанні масу награваюць, змазваюць ёю чарапкі і акуратна змацоўваюць іх. Лішкі масы здымаюць анучкай. Пры склейванні шкла карыстаюцца таксама жэлацінам, да якога дабаўляюць невялікую колькасць воднага раствору двухромакіслага калію. Гэты клей пад уздзеяннем святла становіцца зусім не раставральным, нават у гарачай вадзе.

